Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 8 Серада 31-га Сакавіка 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕ[…]УСКАЕ СЛОВА



Выходзіць […] Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэ[…]ыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэм[…]—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—[…]не Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Ад[…]і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowsk[…]ój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам— 20 гр.
„ сярод тэксту — 25 гр.
„ на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.

# ЗА БЕЛАРУСЬ!

У Менску адбываецца „рэвалюцыйны" суд. Судзяць ізноў сыноў Случчыны. Судзяць тых, хто, ахвяруючы сваё маладое жыцьцё, выйшаў на змаганьне з насільнікамі Бацькаўшчыны. Судзяць не звычайных „белагвардзейцаў", не „буржуяў", а косьць з косьці і кроў з крыві Беларускага Народу—беларускіх народных настаўнікаў. Судзяць іх за тое, што ў *„незалежнай" беларускай* рэспубліцы яны асьмеліліся падняць сьцяг на якім былі словы: „За Беларусь!"— вольную, праўдзіва незалежную, без насільніцкай ўлады чужынцаў — комуністаў.

Ніхто ня можа адмовіць бальшавікам ў вялікім палітычным спрыце і розуме. Гэта асабліва добра відна з тэй гэніальна-лоўкай фальсыфікацыі, якую яны прарабілі з народамі б. Расеі, нарабіўшы „розных незалежных" рэспублікаў, а фактычна закабаліўшы іх пад уладу шайкі міжнародных жулікаў. Аднак-жа бываюць мамэнты, калі бальшавікоў, ці сам Лёс, ці адвечная Справядлівасьць пхае на згубныя крокі і абмылкі. Гэткай згубнай для іх памылкай ёсьць працэс „лістападаўцаў".

Бо што ж ляпей можа разьбіць ілжу бальшавіцкай прэсы аб „незалежнай" Беларусі, як не працэс праўдзівых незалежнікаў „лістападаўцаў?" Што больш яскрава можа зьбіць ашуканчыя апісаньні Мятлы нацыянальна-сацыяльнага „раю" ў Савецкай Беларусі, як не працэс беларускіх народных настаўнікаў, якіх судзяць за праўдзіва незалежніцкі Ідэал! Што можа быць больш забойчым для бальшавіцкай нацыянальнай „толеранцыі", як ні словы Мяцельскага, які пад люфай ужо паднятага нагана кажа: „прызнаю сябе вінаватым ў тым, што хацеў арганізаваць паўстаньне і аружную барацьбу проці Савецкай улады, бо бальшавікі ашукалі народ!" (*„Правда"* Nr 58 ад 2 сакавіка).

Бальшавікі штучна інсцэніравалі працэс. У дапамогу сабе яны ўзялі здраднікаў беларускага народу, у ролі „паліт-экспэртаў"— праўдзівей кажучы „падлец-экспэртаў" — якія, як Жылуновіч і Гарэцкі, за бальшавіцкую зацірку дапамагаюць „рэвалюцыйнаму" суду ў яго расправе з іх калегамі — народнымі настаўнікамі. Гэтыя „падлецы-экспэрты", з звычайнай для іх лоўкасьцю, ў сваіх „экспэртызах" допускаюць агідную ілжу і ашуканства. Гэтак Гарэцкі заявіў, што „калі да Вільні, пасьля падаўленьня Слуцкага паўстаньня, прыбылі многія паўстанцы, у тым ліку і Лістапад, дык сябры нацыянальнага (Віл. Бел. Кома) камітэту аднясьліся да іх з агідай". Гэта — наглая ілжа бальшавіцкага лёкая, бо гэтаму пярэчыць той факт, што ў Віленскі Бел. Ком. былі запрошаны і ўвайшлі у склад сябраў яго аж два прадстаўніка Рады Случчыны —Пракулевіч і Біруковіч. А ў часе 1-ай Белар. Міжнароднай конфэрэнцыі ў Празе чэскай, у 1921 г. на якой былі прадстаўнікі ад усіх беларускіх групаў (так сама і Віл. Бел. Кому!) Слуцкае паўстаньне была ўшанавана перад усім сьветам на ўрачыстым паседжаньні праз устаньне і адпаведную рэзалюцыю. Яшчэ большай фальшай зьяўляецца экспэртыза Жылуновіча, які цьвердзіць, што „сялянства аддана савецкай уладзе".

Аднак жа, нішто бальшавікам не паможа: ні здрадніцкія экспэртызы „падлец-экспэртаў", ні ілжывыя сьведкі, ні самая інсцэніроўка гэтага працэсу. Наадварот—працэс лістападаўцаў ясна і яскрава даказвае ўсяму сьвету, што Беларускі Народ Усходняй Беларусі не прымірыўся і ня прызнае насільніцкай улады бальшавікоў. Ен гаворыць красамоўна, што час цярплівасьці народнай падыходзіць да канца. Што *сам Народ*, праз сваіх праўдзівых змагароў выходзіць на барацьбу з агіднай уладай комуністаў.

Чым скончыцца працэс „лістападаўцаў" мы ня ведаем. Але чым бы ён ня скончыўся, — ўжо самым фактам гэтага працэсу бальшавікі падпісалі сабе сьмертны прыгавар!

Ад слаўнага першага слуцкага паўстаньня прайшло шэсьць гадоў. І цяпер мы бачым што кроў першых паўстанцаў не прапала дарма. Ідэал, якім гарэлі сэрцы першых паўстанцаў, захапіў іншых сыноў Беларусі. На падмогу старым, змучаным змагарам прыйшлі новыя, малацыя беларускія сілы.

Дык ці ж не ясна, што калі сам Народ паўстаў, устрымаць яго не здужае ніякая сіла! Надыйшла хвіля, калі для усяго беларускага Народу Усходняй Беларусі, а перадусім для тых, якія пакінулі родную зямельку і родныя хаты 6 гадоў назад, бліснуў першы прамень вясеньняга сонейка, паўстаючай, вольнай Беларусі. Для насільнікаў нашай Бацькаўшчыны і нашага народу, якія судзяць „лістападаўцаў" гэта—грозныя грымоты народнай гразы, якая разьнясе і раскіне іх агідную ўладу.

# ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

7 сакавіка ў Жэнэве распачалася надзвычайная сэсія Лігі Народаў, меўшая спэцыяльную мэту: прыймо Нямеччыны ў Лігу. Да гэтага часу вяліся доўгія дыпляматычныя перагаворы між Лёнданам, Парыжам і Бэрлінам, якія, як здавалася, скончыліся ўдачна. Толькі трэба было зрабіць яшчэ апошнюю фармальнасьць. Нямецкая дэлегацыя паехала ў Жэнэву з поўным пераконаньнем, што заява Нямеччыны аб уваходзе ў Лігу і Раду Лігі не спаткаецца з ніякімі перашкодамі. Гэту пэўнасьць мелі таксама ў Лёндане і ў Парыжы. Нямеччына сама не дабівалася прыйма ў Лігу; яе запрашалі і нават горача прасілі. Пасьля уваходу Нямеччыны ў Лігу, ў Эўропе павінна была пачацца новая гістарычная эра. Дзеля гэтага тым балей ашаламіла ўсіх поўная няўдача, з якой немцы спаткаліся ў Жэнэве. Немцаў не прынялі ў Лігу дзеля таго, што гэтаму супрацівілася адна Бразылія і прыймо іх адложана да бліжэйшай звычайнай сэсіі Лігі Народаў, якая адбудзецца ў верасьні.

Уся сэсія Лігі Народаў была нязвычайна бурная. Словы „крызіс Лігі Народаў" ад самага пачатка сэсіі ня зыходзілі са шпальтаў газэт. Усе труднасьці былі вось у чым: немцы атрымалі ад Францыі і Англіі ў Лёкарно абецанку, што яны бязумоўна будуць прыняты ў Лігу і Раду Лігі на сталае мейсца (гл. аб арганізацыі Лігі Народаў ў № 4 „Беларускага Слова"). Гэтак сама і Польшча атрымала абецанку Францыі, што будзе прынята ў Раду Лігі, абяцаў падтрымаць кандыдатуру Польшчы і Чэмбэрлен. Але аб гэтым нічога не было сказана Нямеччыне. І дзеля гэтага, калі пасьля нямецкае заявы аб прыйме ў Лігу падала гэткую самую заяву й Польшча, дык у Нямеччыне, Англіі і Швэцыі паднялася цэлая бура пратэстаў. Немцы пратэставалі фармальна проці таго, што ім нічога не сказалі ў Лёкарно аб прадбачанай зьмене складу Лігі Народаў, а ў Англіі і Швэцыі пратэставалі наагул проці пашырэньня складу Рады Лігі. Да гэтых пратэстаў далучыліся яшчэ Гішпанія і Бразылія, якія дамагаліся і для сябе заўсёднага месца ў Радзе. Гэтак вось і разыграўся бой у Жэнэве.

Першая заявіла сваё veto проці прыйма ў Раду Лігі Польшчы Швэцыя, за якой плячыма стаяла Нямеччына. І як не стараліся ўгаварыць швэдзкага дэлегата, ўсе стараньні засталіся безрэзультатнымі. Справа ў тым, што Швэцыя зьяўляецца сябрам Рады, а ўсе пытаньні ў Радзе Лігі, у тым ліку і пытаньне аб прыйме новых сябраў вырашаюцца аднагалосна. Значыцца бяз згоды аднаго швэдзкага прадстаўніка нельга было прыняць Польшчу ў Раду. Каб не разьбіваць лёкарнскага дагавора, Польшча ўступіла ў сваіх дамаганьнях і згадзілася заняць часовае месца ў Радзе Лігі. Гэта выклікала компраміс з праціўнага боку. Чэхаславакія і Швэцыя згодзіліся зараз-жа злажыць свае мандаты у Радзе Лігі з тэй умовай, што на места першай увойдзе Польшча, а на места другой будзе выбрана Галяндыя. Гэткім чынам саадносіны сілаў у Радзе не зьмяніліся-б і немцам пасьля гэтага нічога не заставалася-б, як таксама пайсьці на компроміс.

І калі ўжо здавалася, што ўсе труднасьці пераможаны, выступіла са сваім veto Бразылія, заявіўшы, што калі толькі ёй не дадуць заўсёднага места ў Радзе, дык яна будзе галасаваць проці ўваходу немцаў. Прыняць Бразылію — гэта значыла-б прыняць Гішпанію, Польшчу, Кітай ды інш. і ізноў прыйшлося-б пачынаць усё ад пачатку. Але Бразылія засталася ўпартай у сваіх дамаганьнях і прыйшлося адлажыць пытаньне аб уваходзе Нямеччыны ў Лігу і Польшчы ў Раду Лігі да васеньняй сэсіі Лігі Народаў. А каб не зрабіць у Эўропе ўражаньня, што лёкарнскае дзела прапала, дзяржавы, падпісаўшыя лёкарнскі дагавор, зрабілі агульную заяву, што па прычыне адсрочкі прыйма Нямеччыны ў Лігу лёкарнскі дагавор застаецца ў поўнай моцы. Але адначасна зрабілася ўсім ясна, што статут Лігі трэба перагледзіць. Дзеля гэтага была выбрана спэцыяльная камісія ў складзе 10 сяброў, у лік якіх уваходзяць прадстаўнікі Нямеччыны і Польшчы.

Паседжаньне камісіі вызначана на 10 траўня. Апрацаваны ёю праэкт будзе прадстаўлены на агульны сход Лігі ў верасьні.

І бяз гэтага конфлікта была відаць, што ранейшы статут Лігі Народаў не адпаведны для новага палітычнага палажэньня. Трэба памятаць, што статут гэты апрацоўваўся толькі аднымі пераможцамі адначасна з вэрсальскім трактатам. І калі прызнана, што самы вэрсальскі трактат неадпаведны, дык тым балей трэба пераглядзець і Статут Лігі Народаў. Галоўныя закіды проці Лігі Народаў выстаўлялі нейтральныя і малыя дзяржавы. Што даты-

